ТЕЛЕПРОГРАММА НА НЕДЕЛЮ

№ 72 (1635)

Субота, 19 красавіка 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

**Надвор'е**

У Мінску сёння чакаецца: удзень — +10...+12, уначы — +1...+3; у Брэсце ўдзень — +12...+14, уначы — +2...+4; у Гродне ўдзень — +12...+14, уначы — +1...+3; у Віцебску ўдзень — +10...+12, уначы — +2...+4; у Гомелі ўдзень — +12...+14, уначы — +2...+4; у Магілёве ўдзень — +11...+13, уначы — +1...+3.

На ўсёй тэрыторыі краіны сонечнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



# ААН занепакоена правамі чалавека ў Беларусі



*Жэнева, Палац Нацый. Тут думаюць пра Беларусь.*

**Рэзалюцыя аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі ўхвалена 17 красавіка на пасяджэнні 59-й сесіі Камісіі ААН па правах чалавека, якая праходзіць у Жэневе з 17 сакавіка па 24 красавіка. Пра гэта БелаПАН паведаміў прэс-сакратар Камісіі ААН па правах чалавека Хасе Луіс Дзіаз.**

Паводле яго слоў, за прынятне дакумента прагаласавалі 23 члены камісіі, супраць — 14 і 16 — устрымаліся.

Нагадаем, што праект рэзалюцыі, ініцыятарамі якой выступілі ЗША, а сааўтарамі — Балгарыя, Венгрыя, Чэхія, Славакія, Польшча, Латвія і Канада, вынесены на разгляд сесіі 10 красавіка.

У дакуменце, у прыватнасці, гаворыцца, што Камісія па правах чалавека выказвае "глыбокую занепакоенасць наконт інфармацыі, якая ўказвае на дачыненне вышэйшых службовых асоб Беларусі да знікнення і смерці трох палітычных апанентаў дзеючага рэжыму і журналіста; наконт фактаў незаконных арыштаў і затрыманняў, няспыннага праследавання няўрадавых арганізацый, апазіцыйных палітычных партый і асобных людзей, якія займаюцца апазіцыйнай дзейнасцю, а таксама наконт звестак аб магчымым пашырэнні абмежаванняў на дзейнасць рэлігійных арганізацый".

Камісія, адзначаецца ў дакуменце, "настойліва заклікае ўрад Беларусі зволніць або часова адхіліць ад займаемай пасады прадстаўнікоў праваахоўных органаў, якія маюць дачыненне да выпадкаў знікнення і смерці, да правядзення належнага расследавання гэтых выпадкаў; прывесці дзеянні сіл правапарадку і службаў бяспекі ў адпаведнасць з узятымі на сябе міжнароднымі абавязацельствамі; забяспечыць незалежнасць судовай улады і пакласці канец беспакаранасці асоб, адказных за забойствы або нанясенне калецтваў; вызваліць журналістаў і іншых грамадзян, затрыманых па палітычных матывах, а таксама спыніць праследаванне няўрадавых арганізацый і палітычных партый".

У рэзалюцыі таксама ўтрымліваецца прапанова звярнуцца да вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека з просьбай прызначыць асабістага прадстаўніка, чым мандатам прадугледжвалася б дэталёвае вывучэнне парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі і падрыхтоўка адпаведнага даклада для разгляду на 60-й сесіі Камісіі па правах чалавека.

**Вольга ЛАПІКАВА, БелаПАН.**

*Майкл КОЗАК:*

## «Прыняцце рэзалюцыі аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі — трывожны званок для беларускіх улад»

*Прыняцце рэзалюцыі аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі на 59-й сесіі Камісіі ААН па правах чалавека пасол ЗША ў Мінску Майкл Козак лічыць "вельмі важнай падзеяй".*

Як сказаў Майкл Козак, "спіс краін, у дачыненні да якіх ААН калі б там ні было прымала рэзалюцыі па правах чалавека, дастаткова невялікі" і ўключае ў сябе, напрыклад, Ірак, Судан, Кубу, Польшчу "ўзору 80-х". Такім чынам, на думку амерыканскага дыпламата, для таго каб трапіць у такі спіс, Беларусі ў галіне правоў чалавека давялося "дасягнуць пэўнага ўзроўню".

"Мы спадзяёмся на тое, што рэзалюцыя стане трывожным званком для беларускіх улад, — зазначыў пасол ЗША. — І важна нават не тое, што ўлады зробяць у дачыненні да нас, важна тое, што будзе зроблена імі ў дачыненні да ўласнага народа". Паводле слоў М.Козака, мэта дакумента будзе дасягнута, калі беларускі ўрад пачне з вялікай павагай ставіцца да выканання правоў чалавека ў краіне.

**Юрый ШЫРОКІ, БелаПАН.**
**Фота IREX/ProMedia.**



# З пастарскага ліста на Вялікдзень 2003 года

...Мінула ўжо дваццаць стагоддзяў з таго часу, калі першы раз Анёл з неба абвясціў жанчынам, якія прыйшлі да пустой ужо грабніцы Езуса, Хрыстовае Уваскрасенне. Касцёл у сваёй шматвекавой гісторыі няспынна абвяшчае ўваскрасенне Пана, якое стала асноваю хрысціянскай веры і адначасова задаткам нашага ўваскрашэння.

Мы молімся ў штодзённай малітве "Веру ў Бога Айца" наступнымі словамі: "...укрыжаваны, памёр і быў пахаваны... і на трэці дзень уваскрос", — гэта значыць вызваліўся з-пад улады смерці, перайшоў у несмяротнае, вечнае жыццё. Пацвярджае гэта святы Павел у Пасланні да Рымлянаў: "Хрыстус, уваскросшы з памерлых, ужо не ўмірае: смерць не мае ўжо ўлады над Ім" (гл. Рым 6,9).

У штодзённай малітве "Веру ў Бога Айца" мы таксама вызнаем: "...уваскрашэнне цела". Пан Езус, праз уцелаўленне з'яднаны з чалавечаю натураю, уваскрос і тым самым даказаў праўдзівасць сваіх слоў: "Я — уваскрасенне і жыццё; хто верыць у Мяне, калі і памрэ, — жыць будзе (гл.Ян 11, 25). Пацвярджае гэта Св.Павел у лісце да Карынцянаў: "Як у Адаме ўсе паміраюць, так у Хрысце ўсе ажывуць" (гл. 1 Кар 15,22).

Менавіта таму Вялікдзень з'яўляецца самым вялікім і самым радасным святам хрысціянства, якое святкуецца дзеля праслаўлення Уваскрослага Хрыста, у якім мы ўскладаем надзею нашага ўваскрашэння.

Прыміце пажаданні велікоднага *Аллелюя* з пастырскім благаславеннем.

**Кардынал**
**Казімір СВЁНТЭК,**
**Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска—Магілёўскі,**
**Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі.**

# Хрыстос уваскрэс!

**Дарагія суайчыннікі!**
**Віншуем Вас з радасным і светлым святам**
**Уваскрэсення Хрыстовага!**
**"Хрыстос памёр за грахі нашыя, паводле Пісання, і... пахаваны быў, і... уваскрэс у трэці дзень, паводле Пісання" (Біблія, 1 Кар. 15:3—4).**

Біблія кажа, што Ісус Хрыстос пасля смерці і пахавання ў трэці дзень уваскрэс. Гэта неверагоднае сцвярджэнне, яно пераўзыходзіць наша ўяўленне. Яно здаецца надта незвычайным, каб быць праўдай. Таму крытыкі хрысціянства ўзводзілі паклёп на ўваскрэсенне, аб'яўляючы яго маной, міфам. Але ім ніколі не ўдавалася растлумачыць, адкуль у міфа магла ўзяцца сіла, што прымусіла паслядоўнікаў Хрыста аддаваць усё, калі неабходна і жыццё, за Яго.

Ісус Хрыстос сапраўды ўстаў з мёртвых. Гісторыя свету сведчыць пра Яго ўваскрэсенне. Для доказу гэтага факта існуе мноства неаспрэчных сведчанняў. Жыццё мільёнаў хрысціян сведчыць аб тым, што Хрыстос жывы.

Са смерцю для нас усё не сканчаецца. Вера ў наша ўваскрэсенне — неад'емная частка Евангелля. Немагчыма быць хрысціянінам і не верыць у сваё ўваскрэсенне.

...Свята Вялікадня — не проста радасны час успамінання Божых цудаў у мінулым і спадзяванне на цудоўную будучыню з ім. Гэта наша перамога над грахом, перамога над страхам, перамога над сумненнямі. Гэта пацяшэнне ў скрухах, перажываннях, хваробах. Гэта ўпэўненасць у тым, што ісціна мацней за хлусню, дабро мацней за зло, любоў мацней за нянавісць і жыццё мацней за смерць.

Узрадуемся Ягонаму ўваскрэсенню.

**Хрыстос уваскрэс!**
**Сапраўды уваскрэс!**

**Мікалай СІНКАВЕЦ,**
**Епіскап цэркваў евангельскіх хрысціян баптыстаў у Рэспубліцы Беларусь.**

*Красавік, 2003 года*

## Заваявалі шэсць медалёў

Два залатыя, адзін сярэбраны і тры бронзавыя медалі заваявалі беларускія штангісты на чэмпіянаце Еўропы па цяжкай атлетыцы, што праходзіць у Лутракі (Грэцыя).

У вагавой катэгорыі да 56 кілаграмаў Віталь Дзербянёў заняў першае месца ў рыўку (127,5 кг), другое месца ў штуршку (147,5 кг) і першае месца па суме гэтых вынікаў (275 кг).

У катэгорыі да 62 кг Генадзь Аляшчук удастоены трох медалёў — у рыўку (137,5 кг), штуршку (170 кг) і па суме дваябор'я (307,5 кг).

У жанчын у вагавой катэгорыі да 48 кг Наталля Радухоўская заняла 9-е месца ў рыўку, 6-е ў штуршку і агульным заліку. У Алены Лютарэвіч (да 53 кг) 11-е месца ў рыўку, 10-е — у штуршку і агульным заліку. Таццяна Стукалава (да 58 кг) заняла тры чацвёртыя месцы.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Наши хоккеисты тренируются в усиленном режиме

26 апреля начнется чемпионат мира по хоккею. Белорусская дружина отправилась на тренировочный сбор в Берлин. В воскресенье, 20 апреля, и в среду, 23 апреля, белорусы проведут контрольные игры с национальной сборной Германии. Первый матч — с ганноверской "Пройссаг-Арена", а второй — с берлинской "Дойчландхалле". Встречи начнутся в 15.30 и 20.30 по белорусскому времени.

На сбор приехало 28 хоккеистов, однако ожидается пополнение: прибудут Алексей Калюжный, Андрей Ковалев и Сергей Стась.

Команда поселилась в западной части немецкой столицы, в отеле "Сорат". Базу для тренировок предоставил берлинский "Кэпиталз". Клуб, цвета которого защищал наш хоккеист Андрей Мезин.

Белорусы в Германии тренируются в усиленном режиме, не сбавляя нагрузок даже в дни игр. Главный тренер Владимир Крикунов требовательно относится к команде. Еще бы! Белорусская дружина должна блестяще выступить на чемпионате мира и подарить своим болельщикам настоящий праздник.



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## З прылётам пакуль пралёт

Ужо амаль месяц як беларускія лётчыкі "РАУП "Аэрапорт "Гомельавія" "адпачываюць" у Нігерыі з "лёгкай рукі" тамтэйшых заказчыкаў, якія не выканалі свае фінансавыя абавязкі. Між тым, прадстаўнік расійскага пасольства ў Нігерыі, які займаўся гэтым пытаннем, заявіў журналістам: "Зусім верагодна, што ўжо ў гэтую нядзелю гомельскі экіпаж зможа вярнуцца дадому".

— Гэта не зусім так, — расказала ўчора карэспандэнту "Народнай волі" жонка 2-га пілота Рамана Яфрэмава Дзіяна Юр'еўна. — Літаральна перад вашым званком я размаўляла з мужам, і ён паведаміў, што зараз у Нігерыі аж чатыры дні адзначаюцца святы, а таму нейкія гаспадарчыя разлікі, натуральна, весціся не будуць. Здаецца, усе фінансавыя пытанні, акрамя аплаты гасцініцы, ужо вырашаны, аднак цяпер у Нігерыі знаходзяцца дырэктар "Аэрапорта "Гомельавія" і, здаецца, хтосьці з дзяржкамітэта па авіяцыі. Думаю, што праблем не будзе.

— На ўмовы пражывання муж не скардзіўся?

— Быццам бы ўсё ў парадку. Па тэлебачанні казалі пра пражыванне лётчыкаў у нейкім пяцізоркавым атэлі, але там, наколькі я зразумела, "пяць зорак" прысвойваюць нешта накшталт нашага інтэрната. Муж казаў, што кормяць добра. Аднак да гэтага ён пабываў у такіх гісторыях, што для яго і кавалак хлеба з маслам — ужо добра. І яшчэ. У адной нашай газеце напісалі, што экіпаж, як быццам, утрымліваюць за калючым дротам. Раман растлумачыў, што ў Нігерыі — норма абнесці будыніну дротам. Як у нас рашоткі на вокнах першага паверха...

**Алесь СІВЫ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## Маленький «рай» Михаила Борового

*Министру транспорта и коммуникаций Беларуси **Михаилу Боровому** наконец-таки удалось сходить в отпуск. Правда, всего на две недели. Однако, по нашей информации, эти четырнадцать дней показались Михаилу Ивановичу настоящим маленьким раем.*

Последние десять лет отпуск для Михаила Борового был понятием относительным. Во всяком случае не было такого, чтобы Михаил Иванович уехал куда-нибудь на недельку позагорать. Дефицит времени. Хотя ему часто говорят: мол, в отпуск не ездишь, а такой загоревший! На что Михаил Иванович всегда отвечает: *"Загораю я у себя в деревне, когда работаю. Причем загар берется молниеносно — такая структура кожи".*

В прошлом году министр транспорта не знал, где провести отпуск. *"Очень много мечтаю посмотреть, — говорил он. — Огромный интерес для меня представляют наши внутренние водные пути. У нас есть прекрасный Днепро-Бугский канал. Если никогда там не были — рекомендую. Уникальное место!..*

*Россияне приглашают в круиз по Волге...*

*Планов и порывов, конечно, масса. Однако боюсь, чтобы не вышло, как всегда: три дня в деревне, а остальные — на работе..."*

Так вышло и на этот раз: уже 16 апреля министра-отпускника можно было встретить в Овальном зале, на послании А.Лукашенко.

В понедельник маленький рай министра транспорта и коммуникаций вообще закончится. Отдохнувший и посвежевший, он снова выходит на работу.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ПУЛЬС

## Улада ціснe на незалежныя газеты

*Прадстаўнікі шэрагу няўрадавых арганізацый і рэдакцый газет выступілі з заявай аб недапушчальнасці эканамічнай дыскрымінацыі недзяржаўных СМІ.*

"Мы, прадстаўнікі рэдакцый газет і няўрадавых арганізацый Беларусі, заклапочаны станам свабоды слова ў нашай краіне і заяўляем, што недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі падвяргаюцца з боку ўладаў жорсткаму эканамічнаму націску", — гаворыцца ў дакуменце. У якасці прыкладу прыводзіцца судовае рашэнне ў дачыненні да заснавальніка "Новой газеты Сморгони" Рамуальда Улана, адхіленага ад яе выдання. Гэта, як сцвярджаюць падпісанты заявы, "наглядна прадэманстравала новую тактыку ўладаў у барацьбе з недзяржаўнымі СМІ — праследаванне іх рэдакцый за парушэнні гаспадарчага заканадаўства".

"Прэзідэнцкі дэкрэт забараніў індывідуальным прадпрымальнікам прыцягваць да сваёй дзейнасці больш за тры фізічныя асобы па працоўных дагаворах і дагаворах грамадзянска-прававога характару, — нагадваецца ў заяве. — Дастаткова часта сустракаецца сітуацыя, калі недзяржаўнае СМІ выдае індывідуальны прадпрымальнік, і асабліва гэтая схема распаўсюджана сярод рэгіянальных газет. Да дагавораў грамадзянска-прававога характару адносяцца і аўтарскія дагаворы. Факт публікацыі матэрыялаў пазаштатных аўтараў і лістоў чытачоў рэдакцыямі СМІ азначае заключэнне з імі аўтарскіх дагавораў. Літаральнае ж тлумачэнне нормаў прэзідэнцкага дэкрэта азначае абмежаванне магчымасці публікацый аўтарскіх матэрыялаў у СМІ, якія выдаюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі. Не выключана, што магчымасць падобнага тлумачэння дэкрэта № 4 будзе выкарыстана ўладамі ў мэтах націску на недзяржаўныя СМІ, перш за ўсё, рэгіянальныя".

**БелаПАН.**

## Павел Мажэйка стаў начальнікам

17 красавіка Гродзенскі філіял Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) выбраў новае кіраўніцтва. Старшынёй філіяла стаў Павел Мажэйка (асуджаны журналіст закрытай уладамі недзяржаўнай газеты "Пагоня"), яго намеснікам — былы кіраўнік гродзенскага карпункта газеты "Местное время" Анджэй Пісальнік.

"Такі склад кіраўніцтва філіяла азначае, што гродзенскія журналісты паслядоўна і цвёрда прытрымліваюцца прынцыпаў свабоды слова і гатовы гэтыя прынцыпы абараняць", — заявіў БелаПАН П.Мажэйка.

Сярод найбліжэйшых планаў філіяла БАЖ — актывізацыя працы па абароне правоў журналістаў, у тым ліку права на працу. Будзе таксама створана база даных аб існуючых вакансіях для работнікаў СМІ.

**Ірына ЧАРНЯЎКА.**

## Праз Польшчу паедзем пад аховай

З мая гэтага года пасажырскія вагоны і цягнікі Беларускай чыгункі (БЧ) пры праездзе цераз тэрыторыю Польшчы будуць суправаджацца работнікамі польскай чыгуначнай ваенізаванай аховы для гарантавання бяспекі пасажыраў.

Выпадкі рабаванняў пасажыраў у вагонах і цягніках на тэрыторыі Польшчы апошнім часам пачасціліся. Гэта адбіваецца на падзенні пасажырапатоку, у той час як менавіта міжнародныя перавозкі з'яўляюцца найбольш рэнтабельнымі сярод усіх пасажырскіх перавозак Беларускай чыгункі.

**Аляксей АРЭШКА.**

## За візу возьмуць 5 еўра

Калі перамовы паміж Беларуссю і Польшчай "пройдуць канструктыўна", то кошт аднаразовай польскай візы пасля ўвядзення гэтай краінай з 1 ліпеня поўнамаштабнага візавага рэжыму можа скласці 5-6 еўра.

Пра гэта паведаміў прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных на брыфінгу 17 красавіка, каменціруючы вынікі чарговага раунда беларуска-польскіх кансультацый аб умовах будучага парадку ўзаемных паездак грамадзян дзвюх краін.

Як зазначыў прэс-сакратар, зыходзячы з разумення неабходнасці спрашчэння парадку ўезду грамадзян адной дзяржавы на тэрыторыю іншай дзяржавы, консульскія службы выказваюць гатоўнасць разгледзець магчымасць афармлення віз без запрашэнняў.

Мяркуецца, паведаміў А.Савіных, што льготныя візы будуць выдавацца дзецям і пенсіянерам, непрацаздольным інвалідам, удзельнікам мерапрыемстваў адукацыйнага, культурнага, навукова-тэхнічнага, спартыўнага характару і іншым катэгорыям грамадзян.

**Андрэй СЕРАДА.**

# Убили друга Беларуси

*Убит депутат Государственной Думы России Сергей Юшенков. Как сказал Станислав Шушкевич, он был "адным з цудоўнейшых сяброў Беларусі". Таких наших друзей, по мнению экс-спикера Верховного Совета Республики Беларусь, среди российских парламентариев не много.*



Все знают: Сергей Юшенков не был ни олигархом, ни даже обычным бизнесменом. Он был открытым, искренним политиком. Не в этом ли кроется причина убийства этого человека?

Взгляды этого известного политика носили либеральный характер. Он говорил о том, что не всем нравилось как в России, так и за ее пределами. Но он не мог молчать...

Вот несколько абзацев из его предисловия к книге "Постзападная цивилизация", которая вышла несколько месяцев назад:

"Государство Российское практически всегда в своей истории ненавидело и презирало своих граждан. Сегодняшнее государство, к сожалению, продолжает придерживаться этой гнусной традиции. Сегодня, после нескольких лет относительной свободы, государство вновь становится злейшим врагом именно своих граждан. Для иллюстрации этого утверждения приведу несколько примеров.

**Пример первый.** Подобно тому, как театр начинается с вешалки, любое государство начинается с пограничного контроля. Всякий, кто выезжал за рубеж (при коммунистах выезжали преимущественно избранные), без особого труда назовет существенные различия пограничного контроля в России и в любой другой стране, например, стране Шенгенского соглашения. При въезде в европейскую страну граждане Шенгенского соглашения проходят мимо пограничников и таможенников почти не задерживаясь. Для граждан других стран процедура более сложная, но очереди, а следовательно, и затраты времени, не больше, чем за пальто в театре. Совсем другое дело — Россия. До недавнего времени иностранцы и в нашей стране проходили пограничный контроль значительно быстрее, чем российские граждане. Теперь, кажется, равенство восстановлено: все вынуждены томиться в очередях иногда даже более часа. Государство смотрит на каждого гражданина, как на досадную помеху — это в лучшем случае, а в худшем — как на потенциального преступника...

...Примеры приводить можно в великом множестве. Привел их я вовсе не для того, чтобы уподобиться Михаилу Бакунину и его последователям-анархистам в резком неприятии государства (возможно, именно конкретный пример государства Российского и вдохновлял неравнодушных ко всякого рода унижениям граждан на создание в нашей стране мощного анархистского движения), а лишь только для иллюстрации банальной мысли: государственное устройство в России основывается на следовании исторической традиции — личность перед государством (точнее, чиновником государства) — ничтожное существо, призванное быть лишь расходным материалом в расширении или сохранении великой империи. Однако, как говорил Гегель, истина, оттого что она становится банальной, не перестает быть истиной".

...Еще на одного умного человека обеднела Россия. Еще на одного хорошего друга стало меньше у Беларуси. Когда на Земле воцарятся мир и спокойствие?

**Федор ДУБНОВИЦКИЙ.**

